№ 61 (4108)

9 жніўня 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

**Старшыня Цэнтрвыбаркама Расіі Эла Памфілава сваім рашэннем адмяніла датэрміновае галасаванне.**
**Чаму б гэта не зрабіць Лідзіі Ярмошынай?**
**Беларусь – кампактная краіна і няма сэнсу арганізоўваць датэрміновае галасаванне.**
**А калі нехта выкарыстоўвае гэты момант для фальсіфікацыі вынікаў выбараў – такіх людзей трэба аддаваць пад суд.**

*На “Народную Волю” можна падпісацца ў любы дзень з панядзелка па суботу – на месяц, на квартал, да канца года. Вас чакаюць у паштовых аддзяленнях і ў спецыялізаваных пунктах “Белсаюздруку”.*
**Вы – з “Народнай Воляй”, “Народная Воля” – з Вамі!**

АСОБА



## Юрась ГУБАРЭВІЧ:
# «Увесь мой жыццёвы шлях – гэта змаганне за справядлівасць і перамены ў Беларусі»

Акруговыя выбарчыя камісіі пачалі ўжо рэгістраваць кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў шостага склікання. Сярод першых зарэгістраваных – намеснік старшыні руху «За Свабоду» Юрась Губарэвіч. Ён балатуецца па Калінаўскай акрузе №108 Мінска.

**– Сёлетная кампанія характэрна тым, што сярод прэтэндэнтаў нямала прафесіяналаў, людзей, якія шмат чаго карыснага зрабілі на сваіх працоўных месцах: медыкаў, настаўнікаў, кіраўнікоў прадпрыемстваў… А чым займаецеся вы, спадар Юрась? Няўжо мяркуеце, што людзі больш паверацць грамадскаму палітычнаму дзеячу (менавіта так вы сябе апошнім часам называеце), чым людзям канкрэтнай справы?**

– У дадзены момант я прыватны прадпрымальнік. Гэта дае пэўныя магчымасці зарабіць на жыццё, але, натуральна, найбольш мая актыўнасць і ўвага прысвечаны грамадскай і палітычнай дзейнасці.

Быў у маім жыцці перыяд, калі я працаваў у прыватным унітарным выдавецтве “Палард” намеснікам дырэктара, потым дырэктарам. Па першай адукацыі я інжынер-электрык, у 2000 годзе скончыў Беларускую дзяржаўную політэхнічную акадэмію. У 2001-м выйграў досыць высокі конкурс на паступленне ў Інстытут дзяржаўнага кіравання Акадэміі дзяржаўнага кіравання пры прэзідэнце Украіны, стаў адным з 10 беларускіх слухачоў праграмы. Гэта былі паўтара года дзённага навучання ў Львоўскім філіяле акадэміі. Дыплом абараняў на ўкраінскай мове. Атрымаў не толькі ступень магістра дзяржаўнага кіравання, але і вялікі досвед. Адукацыя ва Украіне пазбаўлена ідэалагічных надбудоў, якія прысутнічаюць у беларускіх адукацыйных праграмах і з якімі сутыкаюцца студэнты ўсіх нашых ВНУ. Ва Украіне вывучаў мясцовае кіраванне, дзяржаўнае кіраванне, усё, што звязана з пытаннямі еўраінтэграцыйных працэсаў. І калі я вярнуўся ў родны Белаазёрск, то меў уяўленне, як павінна грамадскасць супрацоўнічаць з мясцовымі ўладамі.

Я працаваў прадстаўніком па Брэсцкай вобласці ЗАТ «АНК Белроснефтехимресурс”. Але адначасова займаўся грамадскай дзейнасцю. Нягледзячы на тое, што Белаазёрск невялікі горад з насельніцтвам 13,5 тысячы, знайшлося шмат аднадумцаў, людзей неабыякавых да таго, што адбываецца ў горадзе. Мы стварылі Цэнтр рэгіянальнага супрацоўніцтва, праўда, арганізацыя не была зарэгістравана. Але гэта не перашкодзіла сабрацца ў адным месцы грамадскім актывістам розных накірункаў – эколагам, праваабаронцам, культуролагам, потым да нас далучыліся настаўнікі, інжынеры буйных гарадскіх прадпрыемстваў.

**– Не баяліся звальненняў?**

– Не, на той момант мы супрацоўнічалі з мясцовай уладай. Як яна магла не ўхваліць, напрыклад, такую нашу ініцыятыву, як збор сродкаў для маламаёмасных сем’яў альбо правядзенне летніх лагераў для моладзі? Разам з мясцовай уладай і кіраўніцтвам буйных прадпрыемстваў рэалізоўвалі іншыя праекты, шмат займаліся пытаннямі экалогіі. Усё гэта стварыла падмурак для перамогі на выбарах у мясцовы Савет у 2003 годзе. Мы тады пайшлі на выбары камандай і здолелі ўзяць большасць у гарсавеце. Я стаў дэпутатам і намеснікам старшыні Белаазёрскага гарадскога Савета. Усё было добра, але нядоўга.

**– Чаму зараз балатуецеся па мінскай акрузе, а не ў родным Белаазёрску, дзе вас добра ведаюць?**

– У Мінску я стала жыву і працую з 2007 года, і натуральна, што прасцей працаваць з выбаршчыкамі менавіта тут. А ў Белаазёрску я ўдзельнічаў у парламенцкіх выбарах 2004 года. Тады мая каманда сабрала 5 тысяч 800 подпісаў на тэрыторыі акругі, каб зарэгістравацца кандыдатам. Але ўлада добра вучыцца на сваіх памылках. Пасля нашага дэмакратычнага прарыву ў мясцовыя Саветы, на выбарах у Палату прадстаўнікоў шлагбаум быў апушчаны. Для мясцовай вертыкалі гэта было пытанне жыцця і смерці, і яны зрабілі ўсё, каб не паўтарыўся 2003 год. Мяне тады, зразумела, зарэгістравалі кандыдатам і далі другое месца. Напісалі выніковыя лічбы, якія адпавядалі сабраным подпісам. Гэта крыху больш за 12%. Але зразумела, што пытанне не ў працэнтах. А ў тым, што калі няма магчымасці пракантраляваць працэс, то працэнты могуць пісаць, якія захочуць.

**– 11 верасня ў вас будзе магчымасць пракантраляваць падлік галасоў? Колькі вашых прадстаўнікоў трапілі ва ўчастковыя камісіі?**

– Мы вылучалі 21 чалавека ў камісіі, уключылі толькі двух.

**– А колькі ўсіх камісій па вашай акрузе?**

– 40. Палову мы маглі б ахапіць. Але, думаю, тут пытанне не ў колькасці прапанаваных людзей, а тое, як камісіі фарміруюцца. Улада ўсё роўна не прапусціць прадстаўнікоў незалежных структур лічыць галасы ў кожную камісію. Нават з тых двух нашых прадстаўнікоў, якія зацвердзілі, толькі адзін трапіў у склад камісіі паўнавартаснага ўчастка. Другі ж будзе працаваць у так званай камісіі-аднадзёнцы, якая ствараецца на закрытым участку – у амбулаторыі, дзе людзі галасуюць толькі ў дзень выбараў цягам двух-трох гадзін. Зразумела, што гэта не дазволіць цалкам мець уяўленне пра вынікі галасавання, таму мы робім акцэнт на моцнае назіранне. У планах – закрыць усе ўчасткі назіральнікамі, на кожным мець мінімум па 2–3 чалавекі, каб была магчымасць дзяжурыць пасменна і не пакідаць участак ні на хвіліну.

**– І што гэта дасць? Колькі ўжо было такіх моцных кампаній па назіранні за выбарамі, здаралася, што фальсіфікатараў літаральна хапалі за руку. Хоць раз вынікі галасавання былі перагледжаны? Дый што там вынікі – сам інцыдэнт дзе-небудзь разглядаўся?**

– Відавочна, што ў сённяшняй сітуацыі, калі моцная прывязка да Расіі прывяла краіну да крызісу, Лукашэнка хоча, каб Захад заплаціў за нейкія дэмакратычныя змены ў Беларусі сваёй падтрымкай.

Да мінулага года крытэрыямі ацэнкі рэальных змен у Беларусі былі вызваленне палітвязняў і негалосная забарона на рэпрэсіўныя дзеянні адносна тых людзей, якія выходзяць на розныя акцыі і нават удзельнічаюць у несанкцыянаваных мерапрыемствах. Улада вымушана абмяжоўвацца штрафамі і ўжо даўно нікога не кідаюць за краты. Крытэрыем гэтага года будзе сітуацыя вакол выбараў у парламент. І тыя заходнія палітыкі, якія наведваюць Беларусь, адкрыта гавораць, што хацелі б бачыць дэмакратызацыю на прыкладзе парламенцкіх выбараў, каб адбываліся змены ў практыцы іх правядзення.

*(Заканчэнне на 4-й стар.)*

НУ і НУ!

## Два ўгоны – за адзін дзень

30-гадовы ўраджэнец Хойнікаў, што ў Гомельскай вобласці, не меў уласнай машыны. Пакаштаваўшы спіртных напояў, ён вырашыў выправіць такую несправядлівасць. Таму сеў за руль чужой машыны (хай сабе і з прабітым колам) і паціху паехаў па вуліцы пасёлка Крынічны, што ў Мазырскім раёне. Падарожжа, аднак, аказалася нядоўгім: небарака хутка ўбачыў гаспадара, а таму уцёк у лес. Праўда, пакінуў у салоне пашпарт і мабільны тэлефон.

Але мара пра ўласную машыну не пакідала яго. Праз некалькі гадзін мужчына сеў у чужы “Фіят”, стаў заводзіць рухавік і сутыкнуўся з гаспадыняй! Жанчына стала набіраць на мабільніку 102, але наш герой аказаўся спрытнейшым: выхапіў мабільнік з яе рук і зноў уцёк у лес.

Ад трэцяга ўгону выратавалі супрацоўнікі Дзяржаўтаінспекцыі, якія вечарам таго ж дня затрымалі мужчыну каля дома знаёмага. Цяпер няўдалага гоншчыка чакае суд.

**Максім ПЛОТНІКАЎ.**

НАДВОР’Е

## Кароткачасовыя дажджы…

Сёння па ўсёй краіне кароткачасовыя дажджы з навальніцамі. Днём ад +24 да +30. Заўтра кароткачасовыя дажджы пройдуць толькі ў заходніх і цэнтральных раёнах, месцамі будуць і навальніцы. Ноччу ад +10 да +17. Днём ад +18 да +25. Гарачае надвор’е захаваецца толькі на паўднёвым усходзе, тут чакаецца ад +26 да +30.

У чацвер кароткачасовыя дажджы пройдуць ужо на большай частцы краіны. Днём будзе ад +15 да +22, а на паўднёвым усходзе – ад +23 да +29. З пятніцы па нядзелю месцамі кароткачасовыя дажджы.

*Калектыў рэдакцыі газеты “Народная Воля” выказвае спачуванне рэдактару сайта Сяргею Міхайлаву з нагоды смерці бацькі – **Валерыя Віктаравіча**.*

ВАС ИНТЕРЕСУЕТ…

## Что нового по делу Юрия Чижа?

*О том, как идет процесс по делу совладельца «Трайпла» Владимира Япринцева, можно прочитать в интернете. Скажите, а может, есть новости по уголовному делу гендиректора «Трайпла» Юрия Чижа? Известно, что он дал показания в суде по делу Япринцевых, а когда он сам будет объясняться в суде? И будет ли?*

**Валерий ИВАНОВ. Минск.**

Пока глобальных новостей по делу Юрия Чижа нет. Его адвокаты комментариев для прессы не дают. И сам Чиж, и те, кто оказался за решеткой вместе с ним, в этом смысле заняли принципиальную позицию: молчание – золото.

Тем не менее кое-что узнать удалось. «*Идет процесс по возмещению ущерба*», – так говорят люди из окружения задержанных.

Напомним, что Юрия Чижа и его заместителей обвиняют в неуплате налогов и сборов в особо крупном размере. Когда Чижа задержали, речь шла об ущербе, равном примерно 4 миллиардам белорусских рублей (по неофициальной информации). С одной стороны, не такая уж и большая сумма, учитывая размах бизнеса Юрия Чижа. С другой стороны, как прозвучало в суде над совладельцем компании «Трайпл» Владимиром Япринцевым, детище Чижа ушло в глубокий минус.

Точно неизвестно, дает ли показания по делу Юрий Чиж, но некоторые его подчиненные нашли общий язык со следствием.

Дойдет ли дело Юрия Чижа до суда? Пока об этом рано говорить. Бывали прецеденты, когда солидные бизнесмены полностью гасили причиненный ущерб, писали прошение о помиловании и дело списывали в архив. Будет ли такой сценарий использован в скандальной истории с Юрием Чижом – покажет время. Хотя, скорее всего, этим все и закончится. Пусть достраивает то, что не достроил, и пусть развивает то, что уже действует. Люди такого размаха должны созидать, а не сидеть в тюрьме. Конечно, полностью рассчитавшись с государством.

**Андрей ПЕТРОВ.**

ТЕМ ВРЕМЕНЕМ

## Владимир ЯПРИНЦЕВ:
# «Пока любой член нашей семьи будет жив, он будет отдавать долг»

*В суде над Владимиром Япринцевым и его сыном пока объявлен перерыв. Слушания возобновятся 11 августа.*

Напомним, что от Япринцева и его сына требуют вернуть аж несколько десятков миллионов долларов. Сам Владимир Геннадьевич говорит, что весь объем долга стал ему известен летом 2015 года. В августе того же года он уже был задержан. Сын Казбек до последнего скрывал от отца, каких дел он натворил вместе со своим другом, прикрываясь именем отца.

На недавнем заседании в суде была заслушала запись разговора Владимира Япринцева и его сына Казбека после того, как отец узнал о реальных долгах сына. Разговор зафиксировали спецслужбы, которые прослушивали телефоны Япринцевых. В каком-то смысле этот диалог можно назвать показательным.

«*Я это заслужил разве?* – спросил Япринцев у сына. – *Ну почему я разбираюсь, Казик? Я бы не посылал отца, я бы сам поехал и во всем разобрался. Они уверены, что у вас где-то засунуты деньги. Никто не верит, что ты их проиграл….*

*Казик, если бы ты был мужчина, ты бы сам поехал. Я виноват, что тебя так плохо воспитал. Ты предал нас! Значит, это мой крест. Я никакой, я не знаю, что делать…*

*Я не знаю, как нам жить дальше! Какой дьявол заставил тебя это сделать, Казик (проиграть деньги на «Форексе»)? Я думал, ты моя надежда. Но у меня все рухнуло. Хоть бы все живы остались. Вы же не знали даже, сколько брали денег и сколько отдавали. Какие вы (нецензурное. –* ***Ред.****) бизнесмены? Они под мое имя деньги давали, ты же знаешь! Неужели ты не понимаешь, что мою жизнь порезал на части? Казик, иди молись. Проси Бога, чтобы он тебя простил. Иди работай тренером, грузчиком. Не лезь в (нецензурное. –* ***Ред.****) Оставь все. Никуда не лезь. Прокормимся, с голоду не умрем. Твой отец никогда аферистом не был. Я никогда людей не обманывал. Я только смотрел, чтобы наше не отняли. Клянусь, я тебя не понимаю. Я не знаю, что мне делать!*»

На суде Владимир Япринцев не раз подчеркивал, что он не отказывается погасить долги сына.

*«Это моя мужская позиция – какой бы мне ни дали срок, деньги я отдам. Чиж знал, что я лечу в Москву (11 августа 2015 года, в день задержания. –* ***Ред.****), чтобы отдать деньги… Меня там люди встречали с деньгами. Пока любой член нашей семьи будет жив, он будет отдавать долг».*

**Вера ВИР.**

НЕСТАНДАРТ



# Владимир Прокопцов взобрался на 40-метровую башню

Вообще-то, девиз числа 8 у нумерологов – это рассудительность. Но директор Национального художественного музея Владимир Прокопцов, который отмечал свой день рождения вчера, 8 августа, считает, что громкие интерактивные акции не повредят его натуре, а тем более статусу топ-менеджера. Величаво шествовать по жизни не в его характере, и потому почти каждый свой день рождения он превращает в перфоманс.

Вчера местом проведения акции «день рождения директора» стала башня обозрения Гомельского дворцово-паркового ансамбля. Были приглашены только восемь человек. Они поднялись ни свет ни заря, чтобы именно в 8 часов 8 минут и 8 секунд утра быть на 40-метровой высоте, где открыли выставку одной картины «Мое Полесье» авторства В.И.Прокопцова, уроженца деревни Жгунская Буда Добрушского района Гомельской области.

Работа экспонировалась на башне только 8 часов 8 минут и 8 секунд. А затем была передана в дар музею Гомельского дворца.

Конечно, по своему статусу руководитель такого значительного учреждения, как Национальный художественный музей республики имеет полное право сидеть в тиши кабинета и вообще никогда не выходить на публику. «Служенье муз не терпит суеты, прекрасное должно быть величаво». Но время сейчас другое, насквозь информационное. И Владимир Иванович Прокопцов стал, без преувеличения, одним из культурных ньюсмейкеров страны, а Художественный музей – интересной событийной площадкой.

**Елена МОЛОЧКО.**

